Праваабарончы
# Веснік
*травень 2012*
**Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь**

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗНЯВОЛЕНЫЯ ЗАСТАЮЦЦА ЗА КРАТАМІ

**А.Лукашэнка заявіў, што больш нікога не збіраецца вызваляць. Пасля вызвалення А.Саннікава і Дз.Бандарэнкі, маўляў, мяч знаходзіцца на баку Захаду, і ён ад яго «чакае канкрэтных крокаў».**

За кратамі застаюцца 13 чалавек, якія асуджаныя па палітычных матывах. Праваабарончы цэнтр «Вясна» склаў спіс палітвязьняў:

**1. Мікалай Аўтуховіч** – *узяты пад варту 8 лютага 2009 г., асуджаны 06.05.2010 Вярхоўным судом па ч. 3 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах да вогнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 мес. пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Рашэннем суду ад 17.01.2012 умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №5 у Івацэвічах ў турму №1 г.Гродна.*

**2. Мікалай Статкевіч** - *узяты пад варту 20 снежня 2010 г., асуджаны 26.05.2011 г. судом Партызанскага раёна г.Менску па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і узброеным супрацівам прадстаўнікам улады) да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12.01.2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 г. Магілёва.*

**3. Павал Севярынец** – *узяты пад варту 20 снежня 2010 г., асуджаны 16.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.1 арт. 342 КК да 3 гадоў абмежавання волі. Знаходзіцца ў ПУАТ-7 в.Куплін.*



*Старшыня ПЦ «Вясна» Алесь Бяляцкі таксама з'яўляецца палітычным зняволеным*

**4. Зміцер Дашкевіч** – *узяты пад варту 18 снежня 2010 г., асуджаны 24.03.2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 2 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №13 у Глыбокім.*

**5. Эдуард Лобаў** – *узяты пад варту 18 снежня 2010 г., асуджаны 24.03.2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства) да 4 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.*

**6. Сяргей Каваленка** – *узяты пад варту 22 снежня 2011 г. па арт.415 КК (парушэнне ўмоваў адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі). 14.05.2010 г. ён быў асуджаны па ч.1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак) Кастрычніцкім судом г.Віцебска да 3 гадоў абмежавання волі.*

**7. Алесь Бяляцкі** – *узяты пад варту 4 жніўня 2011 г., асуджаны*

*Заканчэнне на старонцы 3*

# ДЗЯРЖДЭПАРТАМЕНТ ЗША ЎЗНАГАРОДЗІЎ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА ЗА ДЗЕЙНАСЦЬ У ГАЛІНЕ АБАРОНЫ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Дзяржэпартамент ЗША ўзнагародзіў зняволенага кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага за дзейнасць у галіне абароны правоў чалавека. «Гэтая ўзнагарода адзначае асобаў і няўрадавыя арганізацыі, якія дэманструюць надзвычайную мужнасць і лідарскія якасці ў абароне правоў чалавека і дэмакратыі ва ўмовах рэпрэсій з боку ўрада», - паведамляецца ў заяве Дзяржэпартамента.

*19 траўня 2012 г.*

ЗАЯВА ПРЭС-САКРАТАРА ДЗЯРЖДЭПАРТАМЕНТА ЗША ВІКТОРЫІ НУЛАНД

Атрымальнікі Узнагароды за дзейнасць у галіне абароны правоў чалавека

Дзяржаўны дэпартамент ЗША рад аб'явіць, што Алесь Бяляцкі з Беларусі і Кааліцыя грамадзянскай супольнасці па правах чалавека і канстытуцыйнаму праву з Уганды атрымалі Узнагароду за дзейнасць у галіне абароны правоў чалавека 2011 г. Гэтая ўзнагарода адзначае асобаў і няўрадавыя арганізацыі, якія дэманструюць надзвычайную мужнасць і лідарскія якасці ў абароне правоў чалавека і дэмакратыі ва ўмовах рэпрэсій з боку ўрада.

Алесь Бяляцкі мужна бараніў правы пацярпелых ад пераследу людзей і іх сем'і, нягледзячы на пагрозу з боку ўрада Беларусі. Як заснавальнік "Вясны", адной з буйнейшых праваабарончых арганізацый Беларусі, Бяляцкі прадстаўляў юрыдычную і практычную дапамогу ахвярам няспыннага пераследу і выступаў ключавой крыніцай інфармацыі аб парушэннях правоў чалавека. Зараз ён з'яўляецца палітычным зняволеным, адбываючы турэмнае пакаранне ў чатыры з паловай гады за абарону правоў чалавека.

Кааліцыя грамадзянскай супольнасці па пытаннях правоў чалавека і канстытуцыйнага закона Уганды ўзнагароджана за эфектыўную абарону правоў прадстаўнікоў супольнасці лесбіянак, геяў, бісэксуалаў і транссэксуалаў (ЛГБТ), часта рызыкуючы ўласнай бяспекай. Кааліцыя, якая складаецца з 40 НДА Уганды, паспяхова бароніць правы прадстаўнікоў ЛГБТ супольнасці ў судах Уганды, распачала публічны дыялог па пытаннях праў ЛГБТ супольнасці ва Угандзе, а таксама кінула выклік шырока распаўсюджанаму скажонаму ўспрыманню і прадузятасці. Структура Кааліцыі, эфектыўнасць яе працы і ўзаемадзеянне з грамадзянскай супольнасцю Уганды служыць мадэллю для праваабаронцаў ва ўсім свеце.




*Часовы паверaны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Майкл Скэнлан і жонка Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук*

Сёлета на ўзнагароду былі намінаваныя прадстаўнікі з усіх куткоў свету. Сярод арганізацый былі намінаваныя НДА Common World (Агульны свет) і Little Bird Mutual Assistance Hotline (Гарачая лінія ўзаемадапамогі "Маленькая Птушка") з Кітая, а таксама Група ўзаемадапамогі і Цэнтр прававой дапамогі ў сферы правоў чалавека з Гватэмалы. Выбітная група асобаў прадстаўлена ў індывідуальнай намінацыі: Хорхе Молан з Калумбіі, Адзілур Рахман Зан з Бангладэш, Георг Фрыман з Сьера Леонэ, Гавінда Прасад Шарма Каірала з Непала, суддзя Высокага суда Свазілэнда Томас Масуку, Ігар Каляпін з Расіі, Зарганар з Бірмы і Зау Мін Хтут, абаронца правоў народа Рахінг'я, які зараз жыве ў Японіі.

Злучаныя Штаты салідарныя з гэтымі абаронцамі правоў чалавека і актывістамі грамадзянскай супольнасці, якія робяць сваю цяжкую працу кожны дзень у любой частцы свету, каб зрабіць рэальнасцю тое, што гарантавана Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека.

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗНЯВОЛЕНЫЯ ЗАСТАЮЦЦА ЗА КРАТАМІ

***Заканчэнне.
Пачатак на на старонцы 1***

*24.11.2011 г. судом Першамайскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 243 КК (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Знаходзіцца ў турме №2 у Бабруйску.*

**8. Мікалай Дзядок** *– узяты пад варту 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 339 КК да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №17 у Шклове.*

**9. Ігар Аліневіч** *– узяты пад варту 29 лістапада 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 339 КК, ч.2 і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры) да 8 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.*

**10. Аляксандр Францкевіч** *– узяты пад варту 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 351 КК (наўмыснае знішчэнне кампутарнай інфармацыі) і ч.2 арт.339 КК да 3 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.*

**11. Яўген Васьковіч*** *– узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12.10.2011 г. умовы адбыцця пакарання былі змененыя на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №15 у Магілёве ў турму №4 г. Магілёва.*

**12. Арцём Пракапенка*** *- узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №15 у Магілёве.*

**13. Павал Сырамолатаў*** *- узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №19 у Магілёве.*

******У дзеяннях дадзеных асобаў угледаюцца прыкметы праваапарушэння, але адзначаем несправядлівую кваліфікацыю іх дзеянняў і празмернасць вынесенага пакарання. Лічым, што яны адбылі ўжо дастатковае пазбаўленне волі для здзейсненага ўчынку і ўтрыманне надалей іх у зняволенні палітычна матываванае.*

## *СПРАВКА*

**Кто такие политзаключённые?**

**Авторитетная международная организация «Международная амнистия» политзаключённым называет человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Amnesty International требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Amnesty International добивается лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Amnesty International не поддерживает и не опровергает взгляды таких людей, а также никак не оценивает необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

# ГОРАЦКІЯ СТУДЭНТЫ СКАРДЗЯЦЦА НА ПРЫМУСОВУЮ ПРАЦУ

У сувязі з правядзеннем фестываля “Дажынкі-2012” горацкіх студэнтаў прымушаюць працаваць на будоўлі і ў батанічным садзе. Дакладна вядома, што студэнты другога курса факультэта “Бізнэса і права” былі абавязаны ў перыяд з 16 красавіка па 13 траўня працаваць на карысць акадэміі. Гэтая праца знаходзілася па-за вучэбным планам, заняткі ў гэты перыяд былі “замарожанымі”. Да прагульшчыкаў адміністрацыя акадэміі мусіла ўжываць разнастайныя санкцыі.

“Азмрочвае дадзеную сітуацыю той факт, што ад гэтых прац студэнты не могуць адмовіцца. Гэтыя працы абумоўлены не вучэбным планам, а стыхійнай неабходнасцю ў выкарстанні бясплатнай рабочай сілы”, - сказала на правах ананімнасці студэнтка горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

# АБВЯШЧАЕЦЦА КОНКУРС НА ЎДЗЕЛ У ЛЕТНІХ ШКОЛАХ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА ДЛЯ МОЛАДЗІ

Беларуская праваабарончая школа, арганізаваная міжнароднай супольнасцю праваабарончых арганізацый, абвяшчае конкурс на ўдзел у Летніх школах па правах чалавека на 2012 год.

У межах праграмы ўдзельнікі знаёмяцца з гісторыяй і філасофіяй правоў чалавека, а таксама метадамі і сродкамі іх абароны на нацыянальным і міжнародным узроўнях.

Выкладчыкамі школы з'яўляюцца прадстаўнікі вядучых праваабарончых арганізацый Беларусі і іншых краін, вядомыя і аўтарытэтныя спецыялісты ў галіне правоў чалавека і права.

*Мэтавая група:*

Да ўдзелу ў праграме запрашаюцца маладыя людзі з Беларусі, зацікаўленыя ў набыцці ведаў у галіне правоў чалавека.

Узрост: ад 18 да 25 гадоў.

Група будзе сфармавана з 20-22 удзельнікаў на конкурснай аснове.

*Месца правядзення:*

Беларускі Дом правоў чалавека Літва (Вільня). Працоўныя мовы: беларуская і руская.

*Тэрміны правядзення Летніх школ па правах чалавека:*

Школа першага набору:
1 – 9 ліпеня (заяўкі прымаюцца да 7 чэрвеня ўключна)

Школа другога набору:
10 – 18 ліпеня (заяўкі прымаюцца да 14 чэрвеня ўключна)

Школа трэццяга набору:
23 – 31 ліпеня (заяўкі прымаюцца да 21 чэрвеня ўключна)

Школа чацвертага набору:
1 – 9 жніўня (заяўкі прымаюцца да 28 чэрвеня ўключна)

*Падача заявак на ўдзел:*

Для ўдзелу ў Школе прэтэндэнт павінен запоўніць рэгістрацыйную форму і даслаць не пазней за вызначаны тэрмін (заяўкі, дасланыя пазней за ўказаныя даты, разглядацца не будуць) на адрас:
belschool@gmail.com

Пажадана прадставіць таксама рэкамендацыйны ліст (ад праваабарончай ці іншай грамадскай арганізацыі, з якой супрацоўнічае прэтэндэнт, з месца працы ці вучобы). Перавага будзе аддавацца прэтэндэнтам, якія арыентуюцца ў грамадскай праблематыцы, зацікаўленыя ў атрыманні ведаў у галіне правоў чалавека, якія жадаюць і гатовыя дзейнічаць на карысць іх абароны.

УВАГА! ПАТРАБАВАННІ ДА ПАШПАРТОЎ: тэрмін дзеяння пашпартоў прэтэндэнтаў павінен быць хаця б на 3 месяцы большы, чым тэрмін заканчэння адпаведнай Школы; у пашпарце павінны быць дзве чыстыя старонкі з адзнакай "візы"; пашпарт павінен быць выдадзены на працягу апошніх 10 гадоў.

Удзельнікі будуць выбраныя сярод заяўленых прэтэндэнтаў у выніку конкурсу, які правядзе спецыяльная кваліфікацыйная камісія. Пра вынікі конкурсу на працягу трох дзён пасля завяршэння адбору будуць апавешчаныя ўсе прэтэндэнты.

Ад удзельнікаў патрабуецца прысутнасць на ўсіх занятках. Арганізатары пакідаюць за сабой права выключыць удзельніка ў выпадку невыканання ўмоваў удзелу ў Школе.

Удзел у занятках і навучальныя матэрыялы бясплатныя. Арганізатары Школы бяруць на сябе расходы на аплату віз і страхавых полісаў, транспартных выдаткаў (кошт праезду да месца правядзення Школы і назад), пражывання і харчавання ўдзельнікаў.

Транспартныя выдаткі, звязаныя з афармленнем віз, кампенсаваныя не будуць.

Калі Вы маеце дадатковыя пытанні, звяртайцеся на адрас: belschool@gmail.com

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.